


# ПРАГРАМА “Дажынак” у Вілейцы

**13 верасня**

старонка 3

Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

13 лістапада 2015 года №46 **(1072)**

## “Рэгіянальная газета” стала лепшай рэгіянальнай газетай 2015 года

старонка 2

## У Маладзечне будуць гуляць каманды вышэйшай лігі?

старонка 22

## Сходзіце на канцэрт, каб дапамагчы дзецям

старонка 5

## Сваячка вязня “Шталага-342” пра брата дзядулі даведалася ў сне

старонка 6

# На маладзечанскім рынку дваранін прадае метал, франтавічка – шкарпэткі

## Жыццёвыя гісторыі гандляроў



Галіна:
“Спальню аддала пад гарбузы і кабачкі.
Важу прадаваць на рынак.
Ад лецішча да чыгункі ісці тры кіламетры...”

старонкі 20-21

Фота Настассі РОЎДЫ.

СУСТРЭЧЫ

## Піпі Доўгуюпанчоху, Маму Му і Карлсана ўзгадвалі на сустрэчы з пасолм Швецыі

МАЛАДЗЕЧНА

**Імпрэзу з удзелам пасла Швецыі Марціна Оберга зладзілі 11 лістапада ў бібліятэцы "Верасок" у межах тыдня бібліятэк Паўночных краін.**


Фота Настассі РОЎДЫ.

Пасол Швецыі ў Беларусі Марцін Оберг.

Яго праводзяць ад 9 да 15 лістапада ва ўсіх краінах Скандынавіі і краінах-суседках.

Удзельнічалі ў мерапрыемстве вучні 4-5 класаў маладзечанскіх сярэдніх школ №8 і №11, школы-інтэрната для дзяцей са слабым зрокам №2.

Галоўнай гераіняй сустрэчы была казачная Піпі. Актрыса лялечнага тэатрыка "Лямцавая батлейка" **Бэла Кавалькова** прачытала дзецям адзін з раздзелаў вядомай казкі шведскай пісьменніцы Астрыд Ліндгрэн. Потым дзецям задавалі пытанні па тым, што толькі прачыталі.

Згадвалі і іншыя творы шведскіх пісьменнікаў: "Маму Му" Юі Віспандэр, "Карлсана" Астрыд Ліндгрэн, "Цудоўнае падарожжа Нільса з дзікімі гусямі" Сельмы Лагерлёф, казкі дацкага пісьменніка Ганса Хрысціяна Андэрсэна, "Мумі-троляў" фінскай шведскамоўнай пісьменніцы і мастачкі Тувэ Янсан.

**Вучні таксама адгадвалі скандынаўскія краіны па іх сцягах, не зрабілі ніводнай памылкі.**

Падчас сустрэчы дырэктарка Цэнтра шведскіх даследаванняў у Мінску **Наста Варашыліна** распавяла пра сам тыдзень бібліятэк Паўночных краін. Ладзяць яго ўжо 17-ы раз, на гэты раз яго тэма – сяброўства ў Паўночных краінах. Сёлета ўпершыню гэту падзею адзначаюць таксама Пасольства Швецыі ў Беларусі сумесна з Цэнтрам шведскіх даследаванняў пры падтрымцы Савета міністраў Паўночных краін.

– Гэта сустрэча – прыклад наладжвання стасункаў паміж народамі, – пракаментаваў "РГ" Марцін Оберг. – У межах тыдня бібліятэк Паўночных краін мы ладзім дзве сустрэчы: у Маладзечне і ў Мінску. Так мы перадаём традыцыі вусных апавяданняў.

Напрыканцы самыя актыўныя ўдзельнікі атрымалі падарункі: кнігі, карты, цацку Піпі.

Пасол Швецыі ў Беларусі таксама падарыў бібліятэцы кнігі, сярод якіх "Піпі Доўгаяпанчоха", беларуска-шведскі і шведска-беларускі размоўнік, "Швецыя і шведы".

**Настасся РОЎДА.**

ВОДГУК

## Пры дапамозе "РГ" знайшлі дзяўчынку са старога фота

ВІЛЕЙКА

**У "Рэгіянальнай газеце" пісалі, што Сільвія Рамейка з Латвіі шукае пляменніцу бабулі з Вілейкі.**

Сваякі не сустракаліся больш за паўстагоддзя і апошнія дзесяцігоддзі не мелі звестак пра яе. А здымкі былі толькі тыя, на якіх Марыя яшчэ дзяўчынка.

На днях Сільвія напісала: "Спяшаюся паведаміць, што пляменніцу бабулі знайшлі! Марыя ўсё яшчэ жыве ў ваколіцах Вілейкі і прачытала артыкул у газеце... Вялікі вам дзякуй ад усіх нашых сваякоў за дапамогу!"

Падрабязна пра гэту гісторыю чытайце ў бліжэйшых нумарах газеты.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

УЗНАГАРОДЫ

# "РГ" стала найлепшай газетай 2015 года

**Конкурс праводзіла асацыяцыя выдаўцоў рэгіянальнай прэсы "Аб'яднаныя масмедыі" Беларусі.**


Фота Сяргея ГУДЗІЛІНА.

Работнікі "Рэгіянальнай газеты". Злева направа: карэспандэнтка Настасся Роўда, галоўны рэдактар Аляксандр Манцэвіч, загадчыца аддзела інфармацыі Зоя Хруцкая, карэспандэнтка Наталля Тур.

Усяго ў конкурсе ўдзельнічалі 12 газет. Сярод іх "Брестская газета", "Вольнае Глыбокае", "Вечерний Бобруйск", "intex-press", "Газета Слонімская", "Інфа-кур'ер", "Информ-прогулка", "Брестский курьер", "Ганцавіцкі час", "Наша слова", "Борисовские новости".

"Рэгіянальную газету" абралі лепшай рэгіянальнай газетай у 2015 годзе. Летась перамагла газета "Вечерний Бобруйск".

"Рэгіянальная газета" атрымала яшчэ сем узнагарод у розных намінацыях: па адным дыпломе за першае і трэцяе месцы, пяць дыпломаў з другім месцам.

**Зоя Хруцкая**, **Наталля Тур**, **Настасся Роўда** занялі ганаровае першае месца ў намінацыі "Культура, гісторыя, краязнаўства" за тэкст "Зінаіда Каханоўская і Надзея Харашэвіч гавораць пра сваіх мужоў, якіх ведалі ўсе, тое, чаго не ведаў ніхто".

Ганаровае другое месца занялі: Зоя Хруцкая і Настасся Роўда ў намінацыі "Найлепшы матэрыял на праваабарончую тэматыку". На конкурс карэспандэнткі адправілі тэксты пра свінакомплексы: Зоя Хруцкая "Што гаварылі на грамадскім абмеркаванні: чаму людзі супраць свінакомплексаў", Настасся Роўда "Чытачка "РГ" з Маладзечна: "З горада хочуць зрабіць свінарнік".

Наталля Тур атрымала другое месца ў намінацыях "Найлепшы журналісцкі матэрыял аб адукацыі" і "Найлепшы аналітычны матэрыял". На конкурс яна адправіла тэксты "Маладзечанка: За вучобу ў каледжы плаціць меней, чым за садок" і "800 пацыентаў маладзечанскай паліклінікі кожны месяц заказваюць талон і не прыходзяць на прыём".

Другое месца ў намінацыі "Найлепшы відэаматэрыял на сайце газеты" ў відэа Настассі Роўды "Гісторыя Насці са школы-інтэрната для дзяцей са слабым зрокам (Відэа)".

Ганаровае другое месца заняў і сайт газеты ў намінацыі "Найлепшы інтэрнэт-сайт газеты".

"Рэгіянальная газета" ўзяла трэцяе месца ў намінацыі "Найлепшая сацыяльная акцыя газеты". "Рэгіянальная газета" разам з курсамі "Мова Нанова" правяла квэст у маладзечанскім парку "Ідзіце на поўнач, пакуль не ўбачыце глебу, дзе не вырасце ні жыта, ні пустазелле".

У журы былі: медыяаналітык **Аляксандр Коктыш**, фатограф **Сяргей Гудзілін**, журналіст польскага выдання "Газэты Выборча" **Андрэй Пачобут**, мовазнаўца і грамадскі дзеяч **Вінцук Вячорка**, блогер **Віктар Малішэўскі**. Узнагароджанне прайшло 6 лістапада.

**Аддзел інфармацыі.**

● "ДАЖЫНКІ-2015"

# "Дзе ўбачу камбайн, хочацца на ім парабіць"

ВІЛЕЙКА

**Гэткія адчуванні былі ў Сяргея Аўгусціновіча з Любані летась, калі не давялося папрацаваць на камбайне. Як-ніяк, прызвычаіўся: з 16 год на жніве.**


Фота забяспечана Сяргеем АЎГУСЦІНОВІЧАМ.

Сяргею Аўгусціновічу падабаецца рытм жніва.

Сёння 27-гадовы ўдзельнік абласных "Дажынак" раскажа, чаму не рвецца ў горад, і раскрые сакрэт, чым яму падабаецца праца камбайнера.

### "Што той горад? Сядзі ў кватэры"

Вучыўся Сяргей на будаўніка ў Маладзечне, папрацаваў на будоўлі. Паспрабаваў гарадскога жыцця, але, кажа, яно не для яго. Яму падабаецца жыць у вёсцы.

**– Моладзь жа, звычайна, у гарады рвецца...**

– Рвецца, але кожнаму сваё. Пажыў я ў Мінску, Маладзечне. Жыў у цешчы ў Вілейцы паўгода, дык абсалютна няма чым заняцца. А сваё ёсць сваё. Што той горад? Сядзі ў кватэры – і больш нічога. Я сам вясковы, і як па мне – лепш вёска, свой дом, двор.

Ды і прывык проста да вёскі, кажа Сяргей. Ад дзяцінства з бацькам на полі: той усё жыццё адпрацаваў у калгасе.

– Ды Любань – не такая вёска, што два дамы і запушчаная. У нас добрая вёска – аграгарадок. Вілейка недалёка.

Галоўная перавага ў вясковым жыцці для Сяргея – свой дом:

– Падабаецца, што ёсць свой двор. Можна там зрабіць, што задумаеш. Дом пачаў толькі выкупляць, але планую лазню паставіць, гараж пабудаваць.

Тут і раздолле для маленькай дачкі Арынкі – ёй хутка споўніцца годзік.

### "Не можаш ты з калгасам развітацца"

Памочнікам камбайнера Сяргей пачаў працаваць з 16 год. Яшчэ ў "Першым Беларускім", калі жыў роднай вёсцы Добравічы. А ўжо ў "Новай Любані" даверылі камбайн. І так з году у год. І ў таварыстве, і сярод моладзевых экіпажаў на Вілейшчыне неаднаразова ў лідарах быў.

Ужо другі год ён не працуе ў "Новай Любані" – ездзіць на лесавозе ў прыватніка. Але з гаспадаркай не развітаўся. Калі паклічуць і ёсць час, ідзе працаваць. Сёлета кармы нарыхтоўваў, на камбайне працаваў, бульбу вазіў. Жонка Наталля толькі ўсміхаецца: "Во, не можаш ты з калгасам развітацца".

– Праца камбайнера цяжкая – не кожны вытрымлівае, – разважае Сяргей. – Але, праўдзе, яна мне падабаецца. Калі пайшоў з гаспадаркі і не працаваў на жніве, то еду на машыне і дзе ўбачу камбайн, дык так захочацца на ім парабіць. Разумееце, цяга такая.

Сёлета ён задумаў памочнікам на камбайн да суседа пайсці. А тут кажуць, што трэба камбайнер на "КЗС-10К".

Упершыню працаваў у экіпажы са студэнтам БНТУ **Яўгенам Дуброўскім**. "Малайчына ён, – кажа камбайнер. – Старанны, не падводзіць". Яўген таксама не навічок на жніве – не першы сезон у памочніках. Разам і перамаглі.

– Мне падабаецца гэты рытм жніва, абстаноўка такая напружаная – каб збожжа хутчэй убраць, – прызнаецца Сяргей. – Сёлета надвор'е добрае было. І камбайн на дзіва добра ішоў – як ніколі адпрацаваў. Хоць ён старэнькі і не той, на якім працаваў раней. Давялося, вядома, перабраць яго перад жнівом.

За працай і доглядам за домам на якія захапленні часу асабліва няма. Але, лічыць Сяргей, трэба не толькі працаваць, а і ў сваё задавальненне пажыць. Сур'ёзна намераныя Аўгусціновічы споўніць сямейную мару – адпачыць у замежжы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




## Праграма абласнога фестывалю-кірмашу "Дажынкі-2015" у Вілейцы 13 лістапада

**Цэнтральная плошча**

**Ад 10:00** запрацуюць выставы падворкаў з раёнаў Міншчыны, рэтрааўтамабіляў, выстава-продаж сельгаспрадукцыі і прамысловай прадукцыі, гандлёвыя рады

На сцэнічнай пляцоўцы на цэнтральнай плошчы:

**10:00-11:30** – выступленне творчых калектываў і выканаўцаў Мінскай вобласці

**11:30-12:30** – тэатралізаванае прадстаўленне "Сватаўство па-вілейску"

**12:30-13:10** – выступленне Беларускага дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі "Свята"

**13:10-13:30** – акцыя "Шлях да хлеба". Моладзевы флэшмоб

**Ад 13:30** – выступленні творчых калектываў і выканаўцаў

**У Палацы культуры:**

**13:00-14:00** – выстава караваяў і дэманстрацыя арыгінальных строяў "Дажынкавы вернісаж"

**14:00 – 16:00** – цырымонія ўзнагароджання перадавікоў аграпрамысловага комплексу, канцэрт.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вілейцы знойдуць жаніха на "Дажынках"

ВІЛЕЙКА

Падчас абласных "Дажынак" 13 лістапада на цэнтральнай плошчы горада пройдзе тэатралізаванае прадстаўленне "Сватаўство па-вілейску".

– Гісторыя такая: жыла-была Вілейка, сабрала добры ўраджай, усяго-ўсяго многа, – расказвае дырэктарка Палаца культуры **Алеся Высоцкая**. – Бацькі вырашылі дачушку, самую зайздросную вілейскую нявесту, выдаць замуж. Прыдумалі, што трэба шукаць жаніхоў па ўсёй вобласці.

На "Дажынкі" ўсе раёны прывязуць свае падворкі. Разам з імі – сваіх жаніхоў.

– Яны падымуцца на сцэну, яшчэ сваты з працэсіяй. Будзе і вілейскі жаніх рыхтавацца, каб нявеста засталася на радзіме. Камусьці яна выдасць гарбуз, а камусьці скажа "так".

Усё будзе суправаджацца вілейскімі вясельнымі маршамі і полькамі.

На цэнтральнай плошчы Вілейкі пройдзе маштабны флэшмоб. У ім удзельнічае больш за 100 вілейскіх дзяцей. Рыхтуе флэшмоб харэограф Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў **Ірына Сідарэвіч**.

Падчас галоўнай урачыстасці ў палацы выступіць ансамбль "Вялея казацкая".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 5.11 | 12.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 17 413,00 | **17 648,00** |
| Еўра | 19 015,00 | **18 958,00** |
| Злоты | 4476,93 | **4 488,29** |
| Расійскі рубель | 273,17 | **273,28** |
| Грыўня | 760,90 | **773,26** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 11.11** | | |
| Еўра | 18900/19240 | **18850/19020** |
| Долар ЗША | 17320/17500 | **17600/17700** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 4.11 | 11.11 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 159 900 | **144 500** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26 800 | **26 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | **75 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39 800 | **39 800** |
| Селядзец, 1 кг | 54 000 | **54 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 108 000 | **125 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13 500 | **13 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 000 | **17 000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 13 000 | **13 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | **23 000** |
| Маянэз, 200 г | 4 500 | **4 500** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13 000 | **13 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Часнок, 1 кг | 47 900 | **47 900** |
| Капуста, 1 кг | 3 500 | **3 500** |
| Морква, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 16 900 | **39 000** |
| Лімоны, 1 кг | 29 900 | **34 500** |
| Апельсіны, 1 кг | 29 500 | **29 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 34 500 | **29 900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 19 900 | **34 500** |
| Ківі, 1 кг | 26 500 | **25 000** |
| Буракі, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Памідоры, 1 кг | 16 500 | **19 900** |
| Агуркі, 1 кг | 29 900 | **32 500** |
| Перац, 1 кг | 14 900 | **47 000** |
| Вінаград, 1 кг | 24 900 | **24 900** |
| Бананы, 1 кг | 19 900 | **17 900** |
| Хурма, 1 кг | 29 900 | **29 000** |
| Памела, 1 кг | 34 900 | **34 500** |
| Яблыкі, 1 кг | 12 900 | **12 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 500 | **24 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **3 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## У аварыі каля "Бярозкі" ДАІ вінаваціць кіроўцу аўтобуса

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося ў нядзелю, 8 лістапада, каля 20:45.

Аўтобус МАЗ, якім кіраваў 55-гадовы вадзіцель, паварочваючы налева з вуліцы Віленскай на Валынца, не ўступіў дарогу аўтамабілю "Фіят", які рухаўся прама. Ім кіравала 28-гадовая мінчанка.

У выніку сутыкнення дзяўчыне-кіроўцы спатрэбілася медыцынская дапамога. Пасля яе аказання дзяўчыну адпусцілі дамоў, аднак з Мінска прыйшло паведамленне, што яна зноў звярнулася па медыцынскую дапамогу.

Таму матэрыял адпраўлены на дапрацоўку.

Вадзіцель МАЗа пакараны, згодна з артыкулам 18.17, за парушэнне правілаў праезду перакрыжаванняў. Яму пагражае штраф ад 3 да 30 базавых велічынь або пазбаўленне правоў тэрмінам на два гады.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага аддзялення ДАІ **Сяргей Барташ**.

**Наталля ТУР.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Затрымалі падазраванага ў серыі ўзломаў кіёскаў

МАЛАДЗЕЧНА

Ад канца 2014 года ў горадзе адбылося ўжо восем крадзяжоў з кіёскаў, да якіх, па версіі следства, мае дачыненне затрыманы падазраваны.

Пра гэта паведамляе начальнік Маладзечанскага райаддзела міліцыі **Валянцін Асіповіч**.

Усе ўзломы кіёскаў адбываліся ноччу. Ні на адным з іх не было сігналізацыі. Адзін месціўся ля аўтавакзала, другі – каля рынку райспажыўтаварыства, трэці – на вуліцы Вольнай.

Злодзей браў цыгарэты, парфуму, біжутэрыю, іншыя рэчы на сумы ад 10 да 70 мільёнаў.

Падазраванага, маладога мужчыну, затрымалі і заключылі пад варту. Ён здымаў кватэру ў Маладзечне.

За серыю крадзяжоў з кіёскаў вінаватаму пагражае да сямі гадоў турмы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Двое мужчын толькі выйшлі з турмы і пайшлі красці

ВІЛЕЙКА

Гаспадар, на чыё дабро спакусіліся зладзеі, звярнуўся ў міліцыю 8 лістапада.

Як распавёў намеснік начальніка Вілейскага РАУС начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**, адзін з фігурантаў здарэння выйшаў з турмы 25 кастрычніка, другі – 5 лістапада.

Па версіі следства, напярэдадні яны выпівалі ў гасцях у пацярпелага. Падчас застолля дазналіся, калі гаспадара не будзе дома.

У гэты час яны разбілі шыбу, прабраліся ў дом і забралі ноўтбук, тэлевізар і іншую тэхніку – больш чым на 20 мільёнаў рублёў.

Калі мясцовы жыхар вярнуўся дамоў і ўбачыў, што адбылося, выклікаў міліцыю.

Падазраваных затрымалі. Як дадае Андрэй Дударчык, цалкам распарадзіцца накрадзеным мужчыны не паспелі і рэчы вярнулі гаспадару.

**Аддзел інфармацыі.**

## Машыну скралі ў Ілы – знайшлі ў Чысці

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

У міліцыю 2 лістапада звярнуўся жыхар вёскі Ілья на Вілейшчыне. Распавёў, што пасля гадзіны ночы нехта скраў яго ВАЗ-2107.

Прычыніў злодзей гаспадару шкоды на 34 мільёны рублёў. "Жыгулі" знаходзіліся ля дома, сталі незачыненыя.

Следча-аператыўная група адшукала машыну ў Чысці Маладзечанскага раёна. У здзяйсненні крадзяжу падазраецца 26-гадовы мужчына. Ён часова жыў у Ілы, а зарэгістраваны быў у Чысці, распавёў начальнік аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Дзмітры Антановіч**.

Яго затрымалі. Райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу за крадзеж. Раней мужчына ўжо быў судзімы.

**Аддзел інфармацыі.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# Пільны чалавек знайшоў падазроны прадмет

### Выклікалі сапёраў

МАЛАДЗЕЧНА

**Вечарам у чацвер, 5 лістапада, па вуліцы Таўлая, каля уезда ў друкарню, пільны чалавек знайшоў каробку, з якой, як яму падалося, тырчала антэна. Падумаў, што гэта бомба.**

Прыехала міліцыя, сапёры з Мінска.

Карэспандэнтка "Рэгіянальнай газеты" таксама была на месцы здарэння, аднак фатаграфавацець ёй забаранілі.

Людзей, якія прыйшлі паглядзець, што адбываецца, папрасілі адысці далей дзеля іх бяспекі.

Па неафіцыйнай версіі, у каробцы было смецце. Каробка была пераматаная дротам.

Па каментар мы звярнуліся да **Уладзіміра Васількова**, намесніка начальніка маладзечанскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні.

– Пра тое, што ў двары друкарні знайшлі падазроны прадмет, у міліцыю паведаміў вартаўнік друкарні. У гэтым выпадку міліцыя спрацавала, згодна з інструкцыяй: адгарадзілі месца, выклікалі спецыялістаў. Знаходка, на шчасце, аказалася бяспечнай. У каробцы ляжала жаночая бялізна і пустая бутэлька.

Супрацоўніца друкарні **Тамара** якраз і знайшла падазроны прадмет:

– Я ішла на працу, заўважыла ў двары, што з каробкі тырчыць антэна. Мне падалося гэта падазроным. Расказала пра гэта нашым вартаўнікам. Яны і выклікалі міліцыю. А кіраўніцтва друкарні за пільнасць не падзякавала. Усё абышлося, і дзякуй богу.

**Наталля ТУР.**

фота asystem.gk43.ru

**Бомба на малюнках часта выглядае так. Чаму супрацоўніцы друкарні падалося, што каробка са смеццем можа быць бомбай, застаецца загадкай.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Кіраўніцу фірмы падазраюць у абкраданні лікёра-гарэлачных заводаў

МЯДЗЕЛ

**Пракуратура Мінскай вобласці ўзбудзіла справу ў дачыненні да кіраўніцы аднаго з ТАА ў Мядзельскім раёне за махлярства ў асабліва буйным памеры.**

Калі ў фірмы склалася цяжкае фінансавае становішча, дырэктарка набыла алкагольную прадукцыю на суму больш чым 230 мільёнаў рублёў, якая рэалізоўвалася ў яе крамах.

Пры гэтым давала прадаўцам ўказанні не апрыходаваць па касе выручку ад рэалізацыі спіртнога.

Яна прадала алкаголь і не аплаціла атрыманую ад трох лікёрагарэлачных заводаў прадукцыю.

Пасля 48-гадовая жанчына закрыла таварыства з абмежаванай адказнасцю, што ўзначальвала.

Праз непрацяглы час адкрыла новую фірму, якая ажыццяўляла тую ж дзейнасць.

Не жадаючы вяртаць грошы, новую фірму яе фактычная гаспадыня зарэгістравала на падстаўных асоб.

Крымінальную справу накіравалі ва ўпраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці.

**Паводле naviny.by.**



АВАРЫІ

## Збілі раварыста – мужчына загінуў

МЯДЗЕЛ

Трагедыя адбылася пасля 18 гадзін 6 лістапада на аўтадарозе Мінск-Маладзечна-Нарач.

51-гадовая кіроўца ехала на аўтамабілі "Таёта-Ярыс" у напрамку Мядзела. Паблізу вёскі Талуць Любанскага сельсавета аўтамашына наехала на 60-гадовага раварыста. Ён ехаў па краі праезнай часткі ў спадарожным кірунку.

Раварыст ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памёр на месцы здарэння.

Як стала вядома, ні ровар, ні раварыст не былі абазначаныя святлоадбівальнымі элементамі. Па факце ДТЗ Вілейскі райаддзел Следчага камітэта распачаў крымінальную справу.

**Паводле УДАІ УУС аблвыканкама.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Сходзіце на канцэрт, каб дапамагчы дзецям

МАЛАДЗЕЧНА

**Адначасова адпачыць на пазітыўным канцэрце, атрымаць падарункі і зрабіць добрую справу прапануюць арганізатары дабрачыннага канцэрта "Проста падары".**



Фота забяспечана Дзмітрыем РУДЫКАМ.

Вядоўца і спявак Дзмітры Рудык.

Спявак і вядоўца **Дзмітры Рудык** разам з фатографам **Вольгай Жарскай** задумалі зладзіць святочнае мерапрыемства з карысцю яшчэ на пачатку года. Дзмітры кіруе студыяй эстрадных спеваў на прадпрыемстве "Энва" ў Маладзечне. На працы сутыкаецца з тым, што людзі з абмежаванымі магчымасцямі маюць шматлікія складанасці.

– Але сэнс не ў тым, каб уздымаць гэтыя складанасці. Наадварот. Мы хочам арганізаваць выдатнае свята, на якім людзі адпачнуць і адчуюць, што дабрачыннасць цешыць душу, што дарыць вельмі прыемна, – тлумачыць Дзмітры.

Разам з Вольгай ён распрацаваў ідэю. Канцэрт прызначаны для дарослых, якія набываюць білеты. Усе сабраныя сродкі з акцыі накіруюць ў Маладзечанскі цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі.

**Дабрачынны канцэрт "Проста падары" адбудзецца ў раённым Цэнтры культуры (былы Дом культуры чыгуначнікаў) у чацвер, 3 снежня. Пачатак у 18 гадзін. Цана білета – 60 000 рублёў. Іх можна набыць у касе Цэнтра культуры.**

На канцэрце Дзмітры Рудык выканае знаёмыя, вясёлыя, мажорныя песні, рыхтуе яркія выступленні падтанцоўка. Выступіць ансамбль казацкай песні "Вялея казацкая".

Вядоўцамі запрасілі віляйчан – дырэктарку Вілейскага Палаца культуры **Алесю Высоцкую** і дырэктара краязнаўчага музея **Сяргея Ганчара**.

Галоўная адметнасць канцэрта – мноства сюрпрызаў. Шоу будзе не падобным на праграму па тэлевізару, на ім выступоўцы будуць размаўляць з публікай, ствараць сяброўскую атмасферу. А таксама разыгрываць прызы, якія прыцягнуць нагадваць гледачам пра іх прыгожы ўчынак. Сярод прызоў будзе фотасесія з Вольгай Жарскай, касметычныя сродкі, а таксама падарунак ад "РГ".

Самі Дзмітры і Вольга не чакалі, што іх падтрымае столькі арганізацый. Ідэю падтрымаў Маладзечанскі райвыканкам, з залай дапамог раённы Цэнтр культуры. Генеральным спонсарам стаў Белдзяржстрах. Іншыя спонсары – "Рэгіянальная газета", кампанія "Арыфлэйм", рэкламнае агенцтва "Ветразі", кавярня "Калумб", тэлеканал МКТВ, "Маладзечанская газета" і партал "Край. бай".

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

АДУКАЦЫЯ

# Вілейскія вучні атрымалі дыпломы і паглядзелі, што спраўдзілася ў кіно "Назад у будучыню-2"

ВІЛЕЙКА

**У Мінскім абласным інстытуце развіцця адукацыі 30-31 кастрычніка прайшоў 18 конкурс работ даследчага характару навучэнцаў устаноў адукацыі Мінскай вобласці.**

Вілейскі раён на конкурсе прадстаўлялі чатыры вучні. У міжпрадметнай секцыі "Экалогія. Энергазахаванне ў адукацыйнай прасторы" гонар раёна абараняў **Клім Севярын**, вучань 8 класа вілейскай гімназіі №1 "Логас" (кіраўнік **Я. Мароз**). У секцыі "Фізіка і астраномія" вучань 10 класа Даўгінаўскай сярэдняй школы **Дзяніс Яскевіч** пазнаёміў з вынікамі калектыўнага даследавання "Атрыманне стэрэаскапічных відарысаў" (кіраўнік **У. Малашэвіч**). На секцыі "Беларуская мова і літаратура" выступіла **Валерыя Кабак**, вучаніца 8 класа вілейскай гімназіі №2, з тэмай "Тапонімы як сродак успрымання свету і адлюстравання ўмоў жыцця людзей (на прыкладзе вёскі Порса Вілейскага раёна)" (кіраўнік **В. Кажура**). У секцыі хіміі калектыўную работу прадставіла вучаніца 10 класа сярэдняй школы №3 Вілейкі **Святлана Ваўчкова**. Тэма работы – "Атрыманне няньютанаўскіх вадкасцей з даступных рэактываў школьнай лабараторыі" (кіраўнік **В. Сапронава**). Работа па фізіцы была адзначаная дыпломам другой ступені, па беларускай літаратуры і па хіміі – трэцяй ступені.

Праграма конкурсу прадугледжвала не толькі актыўную працу ўдзельнікаў, але і "навуковыя" забаўкі. Наведалі пляцоўку музея папулярнай навукі "Элемента", выставу кніг, перыядычных і медыявыданняў "Вучуся быць навукоўцам". Юныя даследчыкі наведалі сеанс навукова-фантастычнага фільма "Назад у будучыню-2".

**Кінафільм выбраны невыпадкова, паколькі падзеі ў ім адбываюцца 21 кастрычніка 2015 года, а здымаўся фільм у 1989-м.**

Прагляд дазволіў параўнаць, што спраўдзілася ў навуковых прагнозах аўтараў фільма, а што – не.

**Уладзімір МАЛАШЭВІЧ, кіраўнік каманды, настаўнік фізікі і матэматыкі Даўгінаўскай сярэдняй школы.**

ГІСТОРЫЯ

## На міжнароднай канферэнцыі па гісторыі ВКЛ расказвалі пра наш рэгіён

АШМЯНЫ, МЯДЗЕЛ

Міжнародная навуковая канферэнцыя "Вялікае Княства Літоўскае: палітыка, эканоміка, культура" прайшла ў Мінску 5-6 лістапада, паведамляе "Наша ніва".

Сярод мноства запланаваных дакладаў былі прысвечаныя нашаму рэгіёну.

Малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі **Яўген Уласавец** падрыхтаваў даклад "Гальшанскі грунтавы магільнік у кантэксце ранняй гісторыі ВКЛ (другая палова 13 – 14 ст.)". Кандыдат гістарычных навук **Мікалай Плавінскі** прысвяціў даклад асноўным вынікам археалагічных даследаванняў Мядзельскага замка.

Пра абодвух археолагаў і іх даследаванні пісала "Рэгіянальная газета".

**Аддзел інфармацыі.**

## "Сыны хочуць ведаць, дзе пахаваны іх прадзед"

Да віляйчаніна **Мікалая Ліскова** звярнулася з просьбай аб дапамозе **Галіна Ларыёнава** з Казахстана.

Яна шукае дзеда мужа. Піша: "Муж мой памёр, але мае сыны хочуць ведаць, дзе пахаваны іх прадзед".

Сям'я спрабавала шукаць па інтэрнэце – ніякай інфармацыі знайсці не ўдалося. Ведаюць толькі, што іх продка звалі **Юлій Гардон**. Ён – яўрэй.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны яго сям'ю эвакуявалі ў Караганду у Казахстане. Юлія пакінулі для працы ў падполлі, так як працаваў у гарвыканкаме. Яго схапілі фашысты і забілі.

Ускладняе пошукі тое, што не ведаюць, у якім горадзе жыў продак. Адзінае, у чым упэўненыя, што горад размешчаны на Мінშчыне, непадалёку ад Мінска. Ведаюць, што быў устаноўлены помнік, на якім указанае імя і прозвішча прадзеда.

Калі хто з нашых чытачоў бачыў у рэгіёне ці па-за ім помнік, дзе прыгаданы Юлій Гардон, паведамляйце ў рэдакцыю ці ў каментах на сайце.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Наталлі ТУР.

У "Шталаг-342" Раўшана прывезла зямлю з таго месца, дзе нарадзіўся брат яе дзеда – Каблыд Малік Амараў.

ПАМЯЦЬ

# Пра брата дзядулі даведалася ў сне

**У панядзелак, 9 лістапада, у Маладзечна прыехала Раўшан Малдыбаева, траурадная пляменніца Каблыда Маліка Амарава, вязня лагера "Шталаг-342", які загінуў 13 верасня 1942 года.**

Брата свайго дзядулі Раўшана бачыла толькі... у сне.

Містычную гісторыю таго, як Раўшана знайшла месца пахавання брата свайго дзядулі, яна расказала "Рэгіянальнай газеце".

Год таму Раўшана паехала адпачываць разам з сястрой у Турцыю.

**І там ёй прысніўся сон. Быццам яе родны дзядуля прыйшоў да Раўшаны з мужчынам у скураным паліто і вялізным носам.**

І кажа ёй:

– Гэта мой старэйшы брат, ён быў яшчэ разумнейшы за мяне.

– Калі вярнулася дадому, у Казахстан, забыцца пра гэты сон не магла, – кажа Раўшана. – Самае дзіўнае, што я ніколі не чула пра тое, што ў дзядулі быў старэйшы брат.

Раўшана паехала ў аул да сваякоў дазнавацца пра гісторыю сям'і.

Аказалася, што насамрэч у дзядулі быў старэйшы брат, які ведаў дасканала англійскую мову, перакладаў кнігі. Пра гэта сам брат дзядулі расказаў Раўшане ў сне.

Сваякі расказалі, што брат дзядулі пайшоў на вайну і больш пра яго ніхто не чуў.

Раўшана пачала шукаць звесткі пра сваяка. Аднак знайсці казаха з прозвішчам Амараў, гэта тое самае, што шукаць рускага з прозвішчам Іваноў.



Фота Наталлі Тур.

**Раўшан Малдыбаева пра месца пахавання брата дзядулі даведалася роўна праз 72 гады.**

Некалькі начэй Раўшана праседзела за камп'ютарам. І ёй пашчасціла. У адным з архіваў яна знайшла звесткі, што брат дзядулі трапіў у палон пад Ржэвам, што ён накіраваны ў "Шталаг-342".

Спісалася з **Лідзіяй Князевай**, кіраўніком клуба "Пошук" маладзечанскай сярэдняй школы №5.

Адказ на свой ліст Раўшана атрымала 13 верасня мінулага года. Лідзія Князева даслала ёй звесткі, якія былі вядомыя пра вязня Каблыда Маліка Амарава. У картцы вязня было пазначана, што ён загінуў 13 верасня 1942 года. Роўна праз 72 гады траурадная пляменніца даведалася пра тое, дзе загінуў яе сваяк.

– Я зараз у Казахстане займаюся радалогіяй. Гэта навука, якая вывучае тое, як лёсы продкаў уплываюць на наша цяперашняе жыццё, – расказвае Раўшана. – Таму я вельмі адчувала, што трэба знайсці свайго сваяка. Я фізічна гэта адчувала, бо пакуль шукала звесткі, мне вельмі балела левая рука. У музыкантаў гэта называецца "зайграць руку".

З тых дакументаў, што ўдалося адшукаць Раўшане, яна даведалася, што прычына смерці дзядулі пазначаная як анемія. І каля прозвішча спецыяльны крыжык.

**Гэты крыжык азначаў тое, што з вязня злілі кроў.**

– Вось яшчэ, што цікава, – працягвае Раўшана, – у спісах вязняў ёсць фотаздымкі, а насупраць прозвішча майго дзядулі толькі пазнака – "муслім".

Справа ў тым, што мусульман забаронена фатаграфаваць. І тыя, хто ствараў гэтыя спісы, гэта ўлічвалі.

Імя Каблыда Маліка Амарава ўжо было занесенае на дошку ў "Шталагу-342". Насупраць яго прозвішча Раўшана апусцілася на калені, высыпала жменю зямлі і прачытала малітву.

– Мне стала лягчэй. Быццам суцішыўся той боль, што не даваў спакою, – сказала Раўшана. – І вялікі дзякуй Лідзіі Барысаўне Князевай. Яна робіць патрэбную справу.

**Наталля ТУР.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

- ГАЗ-53, дызель, самазвал, на запчасткі. Т. (8-029) 3160256.*
- Газель, 2006 г.в, 2,4 бензін, дубль-кабіна, 3 м кузаў, 54 000 000 руб. Т. (8-029) 6223589.
- Мазда-626, 1,8, добры стан. Т. (8-029) 6467681.
- Міцубісі-Карызма, 1995 г.в., 1,6 бензін, зялёны. Т. (8-0176) 741879, (8-029) 6865329.*
- Пежо-Эксперт, 2005 г.в, 2,0 дызель. Т. Вэлком (8-029) 6838029, МТС (8-029) 8746552.
- Рэно-Логан, 2007 г.в, 1,4і, выдатны стан. Т. (8-029) 8619220, 8-044) 5702538.
- Рэно-Меган, хэтчбэк, 1997 г.в., 1,6, серабрысты. Т. (8-029) 6284349.
- Рэно-Лагуна, 1996 г.в., нядорага. Т. (8-029) 3437131.*
- Сітраен-Ксара Пікаса, 2001 г.в, 2,0 НДІ, серабрысты металік, не патрабуе ўкладанняў, 65 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 7698060.*
- Сітраэн-Ксантыя, 1998 г.в., 1,9ТДІ, універсал, серабрысты металік, 28 000 000 руб. Тэрмінова. Торг ля капота. Т. (8-029) 6046748.*
- Сітраэн-Ксантыя, 1999 г.в., 1,9ТДІ. Т. (8-029) 9161792.*
- ФВ Бора, 2001 г.в,1,9ТДІ, серабрысты седан.Т. (8-029) 2693129.
- ФВ Т2, пасажыр,1,6 дызель. Т. (8-029) 8609061
- ФВ Т-4, 1992 г.в, 1,9 дызель, дубль-кабіна, борт 2 м, у рабочым стане. Т. МТС (8-029) 2521691.
- ФВ-Гольф 2, 1990 г.в, выдатны стан, нядорага. Т. МТС (8-029) 8741701, Вэлком (8-029) 6535778.
- ФВ-Джэта, седан, 1984 г.в, 1,6 дызель, перавараны, пафарбаваны, на хаду, страхоўка, 10 000 000 руб. Вілейка. Т. (8-029) 7547443.
- ФВ-Пасат В3, 1993 г.в., цана дагаворная. Т. МТС (8-029) 5019678.*
- ФВ-Пасат В4, 1994 г.в., 1,8 мона, універсал, 49 000 000 руб. Т. (8-033) 6657971.
- Фокус-Форт, 2000 г.в.,1,8 ТДІ, хэтчбэк, г. Маладзечна. Т. (8-029) 6814082.*
- Форд-Фіеста, 1992 г.в, 1,1 бензін, чырвоны колер, добры стан, 13 500 000 руб, торг. Т. (8-025) 7885936.
- Форд-Сіера, 1992 г.в, 2,3Д, седан, шэры, на хаду ці цалкам на запчасткі. 7 920 000 руб. Вілейка. Т. МТС (8-029) 7622740.
- Форд-Эскорт, 1998 г.в, універсал, 1,8ТД, фіялетавы, добры стан, 27 000 000 руб. Т. (8-033) 9031857
- Хундай-Асэнт, 1997 г.в, 1,3Б, хэтчбэк, добры стан, тэрмінова, торг. Т. (8-029) 2319181.
- Хундай-Лантра,1994 г.в, бензін, бардовы, хэтчбэк, нядорага. Вілейка. Т. (8-044) 7312901.
- Шаўрале-Спарк, 2012 г.в, 1,0 газбензін, з Германіі свежапрыгнаны, 5 дзвярэй, чорны хэтчбэк, 74 т.км, 2 ключы, 115 000 000 руб, торг. Т. (8-029) 6631595.*
- **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс-Верса; Фольксваген-Цыгуян, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карневал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўтаСтоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*
- Запчасткі б/у да Форда-Сіеры. Т. (8-029) 6578681.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава, а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Зімовыя 4 колы б/у 205/60 R, Германія. Цана 1 900 000 руб. Т. (8-029) 6207706.

## КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ У ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

## ПАСЛУГІ

- **ПАСЛУГІ МІНІ-ЭКСКАВАТАРА ПАД УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*
- Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*
- Міні-пагрузчыка, міні-экскаватара, колвага экскаватара, каўшы пад усе віды работ, трамбовачныя машыны. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9098949.*
- Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- Міні-экскаватар: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Маладзечна. Т. (8-025) 6713719.
- 2-пакаёвая кватэра ў Ашмянах, 1 паверх. Агульны метраж 52 кв.м. Новыя шклопакеты і жалезныя ўваходныя дзверы. Чысты продаж. Больш інфармацыі па тэл. (8-029) 2649345 Веста.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 7078401.*
- 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Смаргоні, 3/5 паверх. Т. (8-029) 9352224, (8-029) 8632505.*
- 3-пакаёвая кватэра на два бакі 5/9 цаглянага дома па вул. Будаўнікоў. 64,7/39,8/8,0, с/в раздзельны, балкон + лоджыя, 1 038 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 5587283, Вэлком (8-044) 7027735.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па Вялікім Гасцінцы, д,119, 1980 г, дом цагляны, 64,4 кв. м. Т. (8-029) 6411879.
- 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 7858331.
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж ГБК-2 у Вілейцы. Т. (8-033) 6671252.
- Гараж у ГК №9 (раён ЗМК). Гараж цагляны, ёсць склеп (сухі), аглядная яма, святло, надзейны замок. Т. (8-029) 5671261, (8-029) 8624022.*
- Гараж у Маладзечне, вул Міру, каап. №13. Т. (8-029)1468044.*
- Дача ў Смаргонскам р-не, в. Завілле.Т. (8-029) 7844252.*
- Дом у в. Бязводнае Вілейскага р-на Ільянскага с/с, 7х9, ацяпленне пячное (кафель), паравое водазабеспячэнне ў доме, на вуліцы – калонка. Ёсць тэлефон і інтэрнэт. Участак 0,25 га. На ўчастку: лазня, бетаніраваны склеп, гараж і іншыя сельгасбудаўнічыя пабудовы. Усе дакументы афармленыя. Ад трасы Мінск-Мядзел – 500 м, да Вілейскага вадасховішча – 5 км. Т. (8-029) 7567653 Людміла Мікалаеўна.*
- Дом у в. Клідзяняты Смаргонскага р-на. Т. (8-0176) 769284, МТС (8-029) 7696386.*
- Дом у Маладзечне з усімі выгодамі ці абмен на нерухомасць у Мінску. Т. (8-029) 9189924.*
- Кватэра ў Маладзечне ці абмен на Мінск з маёй даплатай. Т. (8-0176) 544593, Вэлком (8-029) 9875857.
- Лецішча ў Ласях, садаводчы кааператыў "Брыльянт". Домік блочны, дагледжаны ўчастак. Т. У Маладзечна (8-0176) 753046, (8-033) 6407558.*
- Хутар, дом 49 кв. м, 25 сотак, гаспадарчыя пабудовы, побач лес. Стаўбцоўскі раён, в. Русакі. Т. МТС (8-033) 6022079, хатні (8-01717) 21628.

## КУПЛЮ

- Дом у вёсцы, танна, у любым стане, з дакументамі на яго. Вілейка. Т. (8-01771) 23447, МТС (8-033) 3506906.
- Дом. Т. (8-029) 3780215.*
- Участак пад будаўніцтва дома ў рысе Вілейкі. Т. Вэлком (8-044) 7965012, МТС (8-029) 7781279.*

## ЗДАМ

- 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 2521348.
- 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-044) 7576072.
- Вазьму на падсяленне ў 1-пакаёвую кватэру ў Мінску дзяўчыну альбо жанчыну. Т. (8-044) 7283523.
- **ЖАДАЕШ РАЗВІЦЬ СВАЮ СПРАВУ. НЕДАРАГІЯ ПАМЯШКАННІ З РАМОНТАМ АД 5 ДА 105 КВ. М КАЛЯ РЫНКУ ПА ВУЛ. ЗААЗЁРНАЙ У МЯДЗЕЛЕ. ПЕРШЫ МЕСЯЦ БЕЗ АРЭНДНАЙ ПЛАТЫ. ЗАЯЗДЖАЙ І ПРАЦУЙ. ПАДРАБЯЗНЕЙ: (8-029) 7778488. ІП РЖАЧЫЦКІ І.Л. УНП 600163683.**
- Пакой 1 ці 2 дзяўчынам у 3-пакаёвай кватэры ў цэнтры Маладзечна. Жыве адзін чалавек. Т. (8-029) 2521348.*
- Пакой для дзяўчынак. Вілейка. Т. (8-025) 9939653.

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Відэаздымка вяселляў, банкетаў і інш. урачыстасцяў. Падарыце сабе фільм, які будзе цікава глядзець доўгія гады! ІП Сысоеў А.А., УНП 691892382. Т. (8-029) 5063428.*
- Вяселлі. Юбілеі. Навагоднія карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж. Усю восень скідка 30% на вытворчасць вясельных фільмаў. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. (8-029) 8745891.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Бус 1,5 тон, нядорага. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*
- Мерседэс 412, 2,5 т, паслугі грузчыка. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*
- Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш**. АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі**. ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*
- Брыгада будаўнікоў выканае мантаж, дэмантаж любой складанасці, бетонныя, дахавыя, аддзелачныя і інш. віды будаўнічых работ. ІП Невяровіч Ю.П. УНП 691892829. Т. (8-029) 5671404.*
- Будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў: дах, аддзелка любой складанасці, падмурак, кладка і інш. ПП "АлексДом" УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 3667001.*
- Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва і жалезабетону. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- **ДЗЕД МАРОЗ І СНЯГУРАЧКА** павіншуе вашых дзетак. Выезд на дом. Т. (8-029) 7550404.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*
- **МАНТАЖ, ДЭМАНТАЖ ДАХАЎ, УЦЯПЛЕННЕ ДАМОЎ ПАД КЛЮЧ, АФАРБОЎКА, ВАДАСЦЁЧКА, АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ І ІНШ**. Шпатлёўка. Ламінат. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Мантаж, дэмантаж даху, крокведнная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- **НАВАГОДНІЯ КАРПАРАТЫВЫ,** банкеты, сучасная праграма **ДЗЕДА МАРОЗА І СНЯГУРАЧКІ,** прафесійны вядучы, жывая музыка, выдатныя гук і святло. Выезд ва ўсе рэгіёны. Т. (8-029) 2779065.*
- Разныя (резные) вырабы: http://vk.com/album-89841448_212974102. Т. (8-025) 9663109.*
- Рамонт катэджаў, офісаў, кватэр; добрая якасць па памяркоўных цэнах. ІП Балееў І.І. УНП 691502137. Т. (8-033) 6660555.*
- Рамонт ноўтбукаў і камп'ютараў. Выезд па Маладзечне і р-не. ІП Сасноўская Н.Б. УНП 691881741. Т. (8-029) 3977734.*
- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.
- Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*
- Рамонт, выраб розных металавырабаў, варот, брамак, лавак, сталоў, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- Распілоўка лесу с выездам да заказчыка – дошка, брус, крокведнная (стропильная) сістэма. Нізкія цэны. ІП Гардзей Е.В. УНП 591700580. Т. (8-029) 6141320.*
- **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*
- Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723, (8-025) 9555719.*
- Усе віды унутраных, вонкавых аддзелачных будаўнічых работ. ІП Язынін А.У. УНП 691512394. Т. МТС (8-029) 5633917, Вэлком (8-029) 3542985.
- Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*
- Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*
- **ЭЛЕКТРАМАНТАЖ.** ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*
- Батарэі чыгунныя, новыя, ванна чыгунная блакітная, новая, 170 см. Т. (8-033) 9031857.
- Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*
- Усё для даху: металачарапіца, прафнасціл, андулін, гнуткая чарапіца, фальцавая чарапіца, керамапласт, металаштакетнік. Поўная камплектацыя, замер, дастаўка, гарантыя. ПП "Алекс-Дом" УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 3667001.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Запчасткі да МТЗ-80, паліўная помпа, гідраўлічная, стартэр, генератар, пускач. Маладзечна. Т. (8-029) 7528897.
- Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Культыватары. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

# СПАЧУВАННЕ

Паважаны **Аляксандр Барысавіч Манцэвіч** і ваша сям'я! Выказваем глыбокія спачуванні з прычыны напаткаўшага вялікага гора – смерці маці, бабулі, свекрыві. Смуткуем разам з вамі і падтрымліваем у цяжкую хвіліну.

**Калектыў "РГ".**



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

- Прычэп МТЗ, ЗІЛ, Муравей. Маладзечанскі р-н. Т. (8-029) 7528897.
- Сячкарня з электрапрыводам, калёсы (телега) конныя на гумовым ходзе з вупражжу, распродаж. Вілейскі р-н. Т. (8-0290 7538694.
- Трактар МТЗ-52, прычэп аднавосевы. Т. (8-029) 6257925.*
- Трактар МТЗ-82У. Т. (8-029) 3663451.
- Трактар МТЗ-82УК з навясным: плуг, культыватар, акучнік, капалка (лідская), збівальнік бульбоўніку. Т. МТС (8-029) 8540568.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320. *

**Мэбля**

- Табурэты новыя, 4 шт., 400 000. Т. (8-025) 9663109.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Баран племянны раманаўскі, малады баранчык пароды тэксель, авечак з ягнятамі. Т. (8-029) 6532888.
- Бараны, авечкі. Т. (8-029) 6578681.*
- Кабан свойскі ў Маладзечанскім раёне. Т. (8-0176) 723749, (8-029) 9790704.*
- Парасяты в'етнамскія, няддорага, магчыма дастаўка. Вілейскі раён. Т. (8-025) 7214255.
- Парасяты в'етнамскія, узрост 3 месяцы, цана 700 000 рублей за парасё. Т. (8-029) 8771541.
- Свіні жывой вагой 120-170 кг, па 35 000 рублёў за 1 кг. Т. (8-029) 8771541.
- Шчаня ёрка. Т. (8-029) 5719668, (8-029) 9368569.*
- Шчаняты ёрка, 2 месяцы, серабрыстыя, прышчэпленыя, з пашпартам. Т. (8-044) 7633488.*
- **ШЧАНЯТЫ, 2 МЕС., ПАРОДА ЁРКШЫРСКІ ТЭР'ЕР, АКРАС СЕРАБРЫСТА-РЫЖЫ, ПРЫШЧЭПЛЕНЫЯ, ЁСЦЬ РАДАВОД.** Т. Вэлком (8-044) 7633488, МТС (8-033) 6350269.*

**Іншае**

- Абрэзкі (гарбыль), 6 куб. м. Сам прывязу. 1 000 000 руб. Т. (8-029) 7876438, (8-025) 9173338.*
- Адзенне, абутак для хлопчыка 8-10 год, б/у, у выдатным стане, танна. Т. (8-044) 7283621.*
- Бульба буйная ў Маладзечне. Т. (8-029) 5506267.*
- Дровы колатые дзве машыны. Т. (8-01771) 71662.
- Каляска прагулачная, 1 год б/у, добры стан, 800 000 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 5045977.
- Сукенка вясельная, памер 46-48, колер шампань, 1 раз б/у. Т. (8-044) 7283621.*
- Увага! Магазіны "Second Hend", якія знаходзяцца па адрасах у Вілейцы: вул. Прытыцкага,4 і вул. Прытыцкага, 21, прапануюць шырокі асартымент жаночага і мужчынскага адзення з Еўропы па нізкіх цэнах. ІП Рабкевіч Г.Н. УНП 691178269.

**КУПЛЮ**

**Будматэрыялы, сантэхніку**

- Батарэі чыгунныя б/у. Т. (8-029) 6319537.

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

- Мотаблок МТЗ, аўтапрычэп, нядорага, матацыкл Мінск. Т. (8-029) 6299208.*

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёлу**

- Кабана, свінню. Т. (8-029) 5688765, (8-044) 5423601.*

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ ДОРАГА! БЕЗ ПАСРЭДНІКАЎ. ВЫЕЗД!** Т. МТС (8-029) 7764214.*
- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*
- Манеты да 1917 г. Выезд па ўсім рэгіёне. Т. (8-029) 6564123.*



**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Інгалятар вытворчасці ВА "Электрамодуль", не ўжываны. Т. (8-029) 6550799.*
- Кнігу "Памяць" Мядзельскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мінскага, Лагойскага раёнаў. Т. (8-029) 5019550.*
- Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*
- Монакуляр, бінокль маркі. Т. (8-029) 5019550.*

**ШУКАЮ РАБОТУ**

- Дахаўшчыка. Усе віды даху. Досвед. Т. (8-029) 9857406.*
- Інжынер ахоны працы, 0,5 стаўкі. Распрацоўка дакументацыі з нуля, СУОТ, укараненне, суправаджэнне. Гандаль. Вытворчасць. Т. МТС 8132637, Вэлком 6866970.
- Дахаўшчыка. Усе віды работ у найкарацейшы тэрмін. Т. (8-029) 2581219.*
- Падпрацоўку па сцяжцы падлогі, тынкоўцы, даху і г.д. Т. (8-033) 6568162.*
- Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач "Улік ОС", "Улік МЦ","Улік ТМЦ і выпіска са склада", "Калькуляцыйная картачка"). Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 145-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*
- Усе віды аддзелачных і будаўнічых работ. Т. (8-029) 8737115, (8-029) 2702321.*

**ПРАЦА**

**ПАТРАБУЮЦЦА**

- Адказная і прыстойная жанчына па доглядзе за дваімі пажылымі людзьмі, магчыма з пражываннем у Маладзечне. Т. (8-029) 1129280.*




Многія аўтааматары памылкова думаюць, што калі ржа з'явілася машыне, ад яе нікуды не дзецца, і звыкаюцца з гэтай думкай. Антыкаразійная апрацоўка дапаможа захаваць прыгажосць і сілу вашага жалезнага каня.

● АЎТААМАТАРУ

# Карозія машыны – не прысуд, змагайцеся з ёй комплексна

**У машыны, як і ў чалавека, свае хваробы. Адной з найбольш распаўсюджаных з'яўляецца карозія. Дробныя сколы, драпіны, уздзеянне супрацьгалалёдных сродкаў зімой – асноўныя прычыны, якія яе паскараюць.**

Многія аўтааматары памылкова думаюць, што калі ржа з'явілася, ад яе нікуды не дзецца, і звыкаюцца з гэтай думкай. Але ўзровень развіцця сучасных тэхналогій і метадаў барацьбы з карозіяй далёка крочыў наперад. Таму з іржой можна і трэба змагацца, каб машына была на хаду.

## Ратуем машыну антыкаразійнай апрацоўкай

Найлепш, каб яна была комплекснай. Гэта значыць, пры дапамозе спецыяльных пранікальных і ўшчыльняльных сумесяў апрацоўваюцца днішча, схаваныя поласці, колавыя аркі, зварачныя швы.

Для кожнага этапу выкарыстоўваюцца асаблівыя матэрыялы і абсталяванне. Кожны від работ прызначаны для засцярогі пэўных праблемных участкаў аўтамабіля.

**Поўная антыкаразійная апрацоўка складаецца з некалькіх этапаў.**

1. Спачатку знімаюць колы, пластыкавую ахову колавых арак, а таксама прадметы, якія перашкаджаюць доступу да знешняй паверхні кузава (гукаізаляцыя, дываны багажніка, падкапотны ўцяплляльнік).
2. Пасля пад высокім ціскам мыецца днішча машыны, уключаючы цяжкадаступныя месцы. Для гэтага прымяняюць сродкі бескантактнага мыцця.
3. Машына праходзіць дыягностыку, спецыялісты падбіраюць матэрыялы для антыкаразійнай апрацоўкі.
4. Аўто абавязкова прасушваюць, прадзімаюць сціснутым паветрам.
5. Калі ёсць іржа, яе выдаляюць.
6. Спецыялісты аглядаюць ніжнія часткі кузава, пры неабходнасці наносяць сродкі супраць карозіі, апрацоўваюць днішча і колавыя аркі зносаўстойлівымі саставамі. Усе схаваныя поласці капота, века багажніка, накрыўкі парогаў і іншыя апрацоўваюць вільгацевыцясняльчым саставам. Для засцярогі краёў, вадасцёкаў і іншых даступных месцаў выкарыстоўваюцца васковыя саставы, якія хутка сохнуць. Пры дапамозе спецыяльных раствораў, якія выдаляюць тлушчы і алеі, здымаюць рэшткі антыкаразійных матэрыялаў.
7. Знятыя элементы ўстанаўліваюць на месца. Уладальнік атрымлівае гарантыю і рэкамендацыі па доглядзе.

## За антыкаразійнай апрацоўкай звяртайцеся да спецыялістаў

Пры ўсёй разнастайнасці і даступнасці сродкаў для антыкаразійнай апрацоўкі, варта перасцерагчы аўтамабілістаў ад самастойнай апрацоўкі кузава. Гэта звязана з тым, што аўтааматары могуць выбраць няправільныя сродкі, быць няўважлівымі пры рабоце. На некаторы час карозія адступіць, аднак пасля возьмецца за ваша аўто з ранейшай сілай. Лепш даверыць работу прафесіяналам. Будзьце асцярожныя і пры выбары СТА. Вы можаце сутыкнуцца з нядобрасумленнымі аднасінамі і няякаснымі матэрыяламі.

**Пры выбары СТА звярніце ўвагу на:**

– досвед работы і станоўчую рэпутацыю кампаніі;
– на ўсе матэрыялы павінны быць сертыфікаты якасці;
– у СТА павінны быць поўны комплекс прафесійнага абсталявання для ўсіх відаў апрацоўкі;
– тое, ці дадуць вам гарантыю на апрацоўку аўтамабіля і яго прафілактычнае абслугоўванне;
– тое, ці можа персанал адказаць на ўсе пытанні аб прызначэнні прымяняемых матэрыялаў і іх адрозненні, пра сутнасць апрацоўкі і іншыя.

Вікторыя БЛОЦКАЯ.



● НАВІНЫ

## "Эцюднай гадзінкай" адкрыюць выставу

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім музеі народнай славы 20 лістапада адбудзецца адкрыццё чарговай выставы суполкі "Абуджэнне" мастакоў з Узды і Мінска. Называецца яна "Ёсць такая зямля, дзе крыніцы звіняць". Пачатак – а 15 гадзіне.

Суполку "Абуджэнне" ўтварылі больш за пяць год таму – ад гэтага часу мастакі-абуджэнцы падарожнічаюць па Беларусі. У суполку ўваходзяць **Андрэй Лычкоўскі, Фёдар Ладуцька, Уладзімір Сайко і Яўген Шунейка**. Разам з імі творчыя працы пакажуць маладыя навучэнцы мастацкай майстэрні **Уладзіміра Сайко – Анастасія Кунец, Анастасія Чмялёва, Павел Уляшка і Уладзіслаў Шуцько**.

На выставе пакажуць жывапісныя, графічныя і тэкстыльныя творы, якія сведчаць пра харашство нашай краіны, пра яе гісторыю і сучаснасць. Мастакі правядуць перад адкрыццём "эцюдную гадзінку", арганізуюць майстар-клас.

Працягнецца выстава месяц. Пасля частку твораў падораць музею.

**Наталля БУРАК, выканальніца абавязкаў дырэктара музея.**

## "Вілія" са Смаргоні стала чэмпіёнам Гродзенскай вобласці

СМАРГОНЬ

"Залаты матч" чэмпіянату Гродзенскай вобласці па футболе прайшоў 7 лістапада ў Лідзе.

"Вілія" са Смаргоні гуляла з ФСК "Гродзенскі". Абедзве каманды набралі роўную колькасць ачкоў у фінальнай частцы чэмпіянату, і, згодна з рэгламентам, пераможцу вызначылі ў матчы паміж імі.

"Вілія" перамагла 2:0 і заняла першае месца ў чэмпіянаце. Абодва галы забілі ў другім тайме, паведаміў гулец "Віліі" **Віталь Будай**. Вызначыліся **Павел Сабіла** і **Юры Марціновіч**.

## Другая запар нічыя "Ашмянаў"

АШМЯНЫ

На гэты раз ФК "Ашмяны" зарабіў ачко 7 лістапада ў гасцявым матчы са сталічным "Тарпеда". Матч завяршыўся з лікам 2:2.

Перад апошнім турам фінальнай часткі чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе "Ашмяны" апусціліся на шостае месцы. Іх абышоў "Клецк".

## "Вілейка" лідзіруе ў турніры

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

У другім туры міжрэгіянальнага турніру па міні-футболе ў Мядзеле 6 лістапада "Юнацтва" згуляла з "Паставамі". Завяршыўся матч унічыю 3:3.

Як цікавы і напружаны матч з роўнай гульнёй, так ахарактарызаваў гульню дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак**.

"Мядзел" 8 лістапада разгромна прайграў "Вілейцы" 3:13. І гэта прытым, што першы тайм мядзяльчане прайгралі мінімальна 2:3.

"Зубраня" адолела "Шылавічы" 4:3.

Пасля двух тураў у лідарах "Вілейка" і "Зубраня". Яны маюць па шэсць ачкоў, але па розніцы мячоў "Вілейка" знаходзіцца на першым месцы.

## Дзейнічае забарона на лоўлю сіга

Забараняецца лоўля сіга ад 1 лістапада да 15 снежня. У гэты час павялічваюцца штрафныя санкцыі.

Пры незаконным вылаве, акрамя штрафу, давядзецца кампенсаваць нанесеную рыбным багаццям шкоду, паведаміў старшы дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету **Уладзімір Хіла.** Кожны злоўлены сіг, незалежна ад памераў, абыдзецца парушальніку ў дзевяць базавых велічынь (1 мільён 620 тысяч рублёў).

## Уганараваныя на "Белазаўскім акордзе"

МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ

У канцы кастрычніка ў Жодзіне прайшоў рэспубліканскі конкурс эстрадных выканаўцаў "Белазаўскі акорд-2015".

Прыз "За лепшую аўтарскую песню" атрымаў **Руслан Рагалевіч** з Мядзельшчыны. Прызам "За сцэнічнае абаянне" адзначылі **Наталлю Ламаку** з Маладзечна, паведамляецца на сайце Палаца культуры Белаза.

Вызначыла журы і "Лепшую песню конкурсу". Прыз прысудзілі вядомай у Маладзечне кампазітарцы **Алене Атрашкевіч.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Ваеннапалонныя розных нацыянальнасцяў рускай арміі. Фота smol-battle.ru.

11 ЛІСТАПАДА – ДЗЕНЬ ПРЫМІРЭННЯ І ПАМЯЦІ АХВЯР ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ

# Вайна і палон у Першую сусветную

## З-за чаго паміралі ў палоне і хто з генералаў здолеў уцячы

**Вайна і палон, як непрыгожая, ашалелая маці і яе нелюбімы, няшчасны сын, брыдуць, узяўшыся за рукі, па бясконцай камяністай дарозе мінулых гадоў.**

І калі тэма вайны грунтоўна вывучаная, хоць і ў ёй яшчэ досыць белых плям, то палон як гістарычная і як сацыяльная з'ява заўсёды заставаўся ў цені вайны, якая нарадзіла яго.

Тэма палону вывучалася, але не атрымлівала належнай агалоскі. Да аналізу і ацэнкі гэтай з'явы падыходзілі, перш за ўсё, з палітычнага пункту гледжання, "няма чалавека, няма праблемы", "у нас няма палонных, у нас ёсць здраднікі Радзімы". Так **Іосіф Сталін** адным росчыркам чырвонага алоўка "вырашыў" праблему трох мільёнаў ваеннапалонных чырвонаармейцаў.

### Палову ваенных страт Расіі ў вайне склалі палонныя

Еўрапейская вайна дала небывалую колькасць ваеннапалонных – 7,5 мільёна чалавек. Палову ваенных страт Расіі ў вайне склалі палонныя, больш за 2,5 мільёна салдат.

Тры мільёны салдат і афіцэраў праціўніка апынуліся ў палоне рускага войска. Колькасць палонных краін Антанты склала каля чатырох мільёнаў чалавек. У цяжкім 1915 годзе руская імператарская армія страціла 405 тысяч палоннымі і зніклымі без вестак. Але падчас прарыву Паўднёва-Заходняга фронту рускія паланілі 450 тысяч салдат і афіцэраў Аўстра-венгерскай і германскай армій. Крыніцай дакладнага вызначэння колькасці ваеннапалонных служаць дадзеныя нямецкага ваеннага міністэрства, па якіх у Германіі налічвалася 1435000 рускіх ваеннапалонных. Колькасць ваеннапалонных рускіх салдат і афіцэраў у Аўстра-Венгрыі дасягала аднаго мільёна чалавек.

Дзякуючы намаганням Чырвонага Крыжа і нейтральных краін умовы ўтрымання ваеннапалонных у лагерах у большасці выпадкаў адказвалі ўсталяваным нормам. Інтарэсы рускіх ваеннапалонных, акрамя Расійскага таварыства Чырвонага Крыжа, абараняла пасольства Іспаніі, а інтарэсы нямецкіх палонных у Расіі прадстаўлялі шведы; аўстрыйцаў абараняла Данія.

**Смяротнасць сярод рускіх салдат у палоне дасягала больш за 7%, каля 200 тысяч чалавек. Але гэта значна менш, чым загінула савецкіх ваеннапалонных у гады Вялікай Айчыннай вайны – 3,2 мільёна чалавек, або 62% ад агульнай колькасці ваеннапалонных чырвонаармейцаў.**

А ўсяго ў палоне ў гады Еўрапейскай вайны загінула больш за 500 тысяч чалавек.

Цікавы факт. У палон у перыяд Еўрапейскай вайны трапіла каля 70 рускіх генералаў, а вось уцёк з палону толькі адзін з іх – камандзір 48-й дывізіі генерал **Л. Карнілаў**, прычым з трэцяй спробы. Сярод французскіх палонных смяротнасць складала 4%.

Трэба адзначыць, што працэнт смяротнасці ад ран невялікі ў шэрагу ўсіх выпадкаў смерці ў палоне. Галоўная прычына смерці – гэта хваробы, цяжкі маральны стан ваеннапалонных, абумоўлены адарванасцю ад родных мясцін. Бязмежная туга па Радзіме і родных.

### "Дзіўна бачыць так блізка перад сабой гэтых нашых ворагаў"

Праўдзіва апісаць вайну і палон можа толькі той пісьменнік, які сам у ёй удзельнічаў, таму слова выдатнаму нямецкаму пісьменніку Эрыху Марыі Рэмарк. Ён сам пабываў у самым пекле Вялікай Еўрапейскай вайны – пад бельгійскім горадам Іпр. Два ваюючыя бакі пакінулі на полі бою 250 тысяч забітых. Ён лічыў памылкай тое, што выжыў у той бітве. Абвостранае пачуццё справядлівасці і віны пераследавалі яго ўсё жыццё. Жалезны крыж героя вайны ён неўзабаве вярнуў ураду – яму здавалася, што ён не па праве заняў у жыцці месца загінулых аднапалчан.

Вуснамі героя свайго рамана "На Заходнім фронце без перамен" апісвае адчуванні нямецкага салдата, які спрабуе па-чалавечы зразумець, хто яны, гэтыя рускія? "Дзіўна бачыць так блізка перад сабой гэтых нашых ворагаў. Гледзячы на іх твары, пачынаеш задумвацца. У іх добрыя сялянскія твары, вялікія лбы, вялікія насы, вялікія губы, вялікія рукі, мяккія валасы. Іх трэба было б выкарыстоўваць у вёсцы – на ворыве, на касьбе, падчас збору яблыкаў. Выгляд у іх яшчэ больш лагодны, чым у нашых фрысландскіх сялян. Сумна назіраць за іх рухамі, сумна глядзець, як яны кленчаць, каб далі чаго-небудзь з'есці. Усе яны даволі прыкметна аслаблі – яны атрымліваюць роўна столькі, каб не памерці з голаду. Бо нас і саміх даўно ўжо не кормяць уволю... Згорбіўшыся, панурыўшы галаву, сагнуўшы ногі ў каленях, скоса пазіраючы на нас знізу ўверх, яны працягваюць руку і просяць, ужываючы тыя нешматлікія словы, што яны ведаюць, – просяць сваімі мяккімі, ціхімі басамі, якія выклікаюць уяўленні аб цёплай печцы і хатняй утульнасці".

Працяг будзе.

Урывак з новага выдання кнігі "Нарачанскае рэха Вердэна" Генадзя МАЛЫШАВА, Мядзел.

КАЛЯНДАР

14 ЛІСТАПАДА

**110 гадоў** з дня нараджэння Міхася Васілька (сапр. Касцевіч Міхаіл Восіпавіч, 1905 – 1960), беларускага паэта.

15 ЛІСТАПАДА

**90 гадоў** таму (1925) выйшла 1-я перадача Беларускай шыракавяшчальнай радыёстанцыі.

16 ЛІСТАПАДА

**90 гадоў** з дня нараджэння (1925) Кастуся Акулы (да эміграцыі Аляксандр Качан), беларускага пісьменніка, грамадскага дзеяча. Нарадзіўся ў вёсцы Верацеі Вілейскага павета, цяпер Докшыцкі раён. Бацькі мелі яшчэ сем дзяцей і 12 гектараў ворнай зямлі. У час нацысцкай акупацыі скончыў у Глыбокім шасцімесячныя настаўніцкія курсы і паспытаў хлеба вясковага настаўніка. Восенню 1943 года здаў экзамены ў 8 клас Віленскай беларускай гімназіі, але не скончыў: падчас адной з паездак дадому трапіў у Мінску ў аблаву і... тры месяцы нямецкай турмы і месяц канцлагера. У чэрвені 1944 паступіў добраахвотнікам у Мінскую школу камандзіраў Беларускай Краёвай Абароны. Потым былі чыгуначныя эшалоны, бамбаванні, першыя маршы на дарогах Еўропы. Напрыканцы жніўня краёвыя абаронцы арганізавана перайшлі да французскіх партызанаў. Пазней ваявалі супраць немцаў у Другім польскім корпусе генерала Андэрса 8-й Брытанскай арміі, якая знаходзілася ў Італіі, удзельнічалі ў славутай бітве пры Монтэ Касіна, дзе загінула шмат беларусаў, за што атрымаў англійскі медаль "За вайну" і ордэн "Залатая зорка Італіі". Вяртанне дамоў абяцала няволю ў ГУЛАГу, дзе загінуў яго бацька.

Нястомны арганізатар жыцця згуртавання беларусаў Канады. Больш за 20 гадоў выдаваў у Таронце часопіс "Зважай". У 1962-м пабачыў свет першы раман "Змагарныя дарогі", які ў 1994-м быў перавыдадзены ў Беларусі. У 2005-м пад назвай "Россыпы" выйшаў важкі том яго выбранай прозы. Ён адзін з беларускіх пісьменнікаў замежжа напісаў раман на англійскай мове "Заўтра – гэта ўчора" (1968) пра лёс беларусаў і Беларусі ваеннай і паваеннай пары. Памёр 29 студзеня 2008 года.

**110 гадоў** з дня нараджэння Яна Скрыгана (1905 – 1992), беларускага пісьменніка, паэта, навеліста, нарысіста, публіцыста, крытыка, заслужанага работніка культуры Беларусі. Ён адзін з першапраходцаў беларускага нарысу як новага літаратурнага жанру.

Марыя БЕРАСНЕВА.

ТЭМА НУМАРА




Гандляр Мечыслаў Іосіфавіч кожны тыдзень прыязджае ў Маладзечна з Крэва на сваім старэнькім "Масквічы".

# Гандляры ў Маладзечне: "Калі трэба, хоць мужыка падбяром і прададзім!"

МАЛАДЗЕЧНА

**Сівы мужчына зразае нажніцамі ў скрыню абляпіху, жанчына ў інвалідным вазку прапануе дыскі, дзве жанчыны прадаюць грыбы і абмяркоўваюць сямейныя праблемы. Кожны дзень рынак райспажыўтаварыства ў Маладзечне мяняецца, мяняюцца гандляры і іх тавары, мяняюцца пакупнікі. У кожнага гандляра ёсць свая гісторыя, якая прывяла яго на рынак. Іх і высвятлялі карэспандэнты "РГ".**

На лістападаўскай планёрцы ў Маладзечанскім райвыканкаме прадстаўнікі ўлады даручылі змагацца з гандлярамі, якія прадаюць тавары і не плацяць грошы за арэнду месца, абавязалі Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі сачыць за санітарным станам іх прадукцыі.

### Былая франтавічка прадзе воўну і прадае з яе шкарпэткі

Каля рынку дастаткова запаволіць крок – гандляры самі загавораць з вамі, раскажуць, чаму іх тавар для вашай гаспадаркі проста незаменны:

– Дзяўчаты, бярыце сардэчныя кроплі! – крычаць нам услед. На пярэчанне, што яшчэ ранавата імі запасацца, адказвае: – Будзеце так за сэрца хапацца, спатрэбіцца!

На пластыкавых скрынках раскладзеныя шкарпэткі. На пытанне, ці цёплыя, адказвае:

– Я былая франтавічка, у вайну ногі адмарозіла, дык толькі яны і грэюць цяпер. Сама ж іх вяжу і пражу раблю. Ёсць з авечай воўны, ёсць з сабачай поўсці. Людзі сабак самі прыводзяць, каб падстрыгла. Іх жа нажніцамі нельга, спецыяльнай машынкай трэба стрыгчы, а пасля праду.

На пытанне, ці карыстаецца кроснамі, адказвае, паказваючы рукі:

– Вось мае кросны! Грошы за прадзенне не бяру, палову нітак сабе пакідаю, палову гаспадарам аддаю. Цяпер адна жыву, няма каму памагаць. На рынак і езджу.

### Ледзь ходзіць, але прадае гарбузы і кальрабі

Гарбузы прадае 77-гадовая **Галіна**. За прылаўкамі пад навесам нават у будні не менш за пяць бабуль, якія прапануюць тавары са свайго агарода. Тут знаходзяць усё, што расце на ўчастку: чагу, наготкі, мацярдушку, сухацвет, альвас, а таксама самую розную гародніну. Падыходзім да 77-гадовай бабулі з гарбузамі, кабачком, некалькімі шклянкамі з фасоляй.

– Усё з лецішча ў Красным, ну. Далёка, дзеткі, яно, тры кіламетры ад электрычкі. Фасоля мая харошая, хуценька разварваецца. Я сабе з расольнікам раблю, на тры дні вару. Купляла некалі на рынку, цяпер у мяне расце. Тут кмен і кроп. Усё, што вырошчваю, усё сюды вязу. Вырасла гарбузоў з 15 сёлета. Летам на рынку не бываю, толькі ягад якіх, можа, кілаграм, прынясу. Ногі не ходзяць, адхадзілі ўжо. 77 гадоў, што ж вы хочаце.

У агародзе памочнікаў няма. Сына ў снежні пахавала... (*выцірае слёзы. Пытаемся пра адзін з тавараў: "А гэта што ў вас?"*). А кальрабі. Капуста такая. У сярэдзіне белая. В'етнамцы надта бяруць на салат. У мяне тры пакоі, адзін адпусціла пад гарбузы і кабачкі. Мінулы год такія гарбузы былі, па пуду. Каціла іх, дык падбіваліся і псаваліся. Яны не любяць бою. Сама ж гарбузоў не вару ўжо. Прыходжу, ногі адкідаю і ляжу. На базар нясу ў торбе, а як з лецішча забіраць, то наймаю машыну і перавожу ў горад, што збяру з агарода. Бываюць дні, што нічога не прадасі. Слаба бяруць, цяпер усяго навалам.

### Пашкадавала бязножку і аддае кацянят

Каля рынку аддае задарма рыжанькага і шэранькага кацянят маладзечанка **Вераніка**:

– У мяне тры кошкі. Жыву ў кватэры ў Маладзечне. Коцікі з вуліцы, шкадую іх. Адну толькі нявестка прывезла. Яна была скалечаная. Ёй аперацыю зрабілі, была хвароба. Так бы прапала. Усе ў хаце жывуць. (*Пытаемся, а адкуль тады кацяняты*) А гэта мой чалавек неяк узлаваўся і выгнаў. Вось было шэсць кацянят, траіх аддала. Дваіх сёння прынесла, можа, хтосьці возьме. Аднаго пакуль дома пакінула, не злавіла.

На рынку не надта забіраюць. Некаторыя не любяць іх, некаторыя і любяць, але не могуць клапаціцца. Мне вельмі шкада коцікаў, што на вуліцы застаюцца. Людзі зачыняюць пад'езды, падвалы. Праходжу міма – ноч надыходзіць, а яны адны на вуліцы. Няўжо падвалу шкада? Ці кавалка кілбасы? Гэта ж такая энергетыка, засцярога ад усяго злога, моц даюць людзям.

У некаторых краінах нават ёсць аднадзённыя вальеры, дзе жывёлкі могуць пераначаваць. У дзяцінстве катоў любіла не настолькі, як цяпер. Была адна кошачка, у якой лапкі не было, забрала да сябе. Пашкадавала бязножку, пасля гэтага і пачала так займацца коцікамі. Часам мне падкідаюць катоў. Адна суседка раней на іх скардзілася, але цяпер супакоілася.

### Дваранін і вынаходнік гандлюе жалезам з гаража

На маладзечанскім рынку цэлы рад займаюць



Галіна расказвае, што кашу з гарбузоў ужо не варыць. А сусед па прылаўку прызнаецца, што ад яго жонкі таксама не дапросішся такой кашы.



У гандляра ёсць мёд на любы густ: і рапсавы, і ліпавы, і кветкавы.



Гадзіннік у Пятра Сяргеевіча стаіць. Падарылі яму яго 35 гадоў таму. А дома ляжаць яшчэ і "Камандзірскія", таксама падораныя.



Вераніка вельмі любіць і шкадуе не толькі сваіх гадаванцаў, але і ўсіх дваровых катоў.



Маладзечанка Вераніка прыйшла на рынак, каб аддаць кацянят у добрыя рукі.

гандляры розным "жалезам". Звычайна гэта мужчыны за 50, на прылаўках у якіх медалі, значкі, нажы, дзвярныя ручкі, цвікі, колы з дзіцячых вазкоў, інструмент, трубы. Мясцовыя ведаюць, што часам патрэбную драбязу прасцей знайсці тут, з нечага чужога падвала ці гаража, чым шукаць у спецкрамах. Адзін з такіх гандляроў – **Пётр Сяргеевіч**. Прайсці праз яго лаўку незаўважным не атрымаецца:

– Што цікавіць дзяўчат? У нас усё ёсць, калі трэба, хоць мужыка падбяром і прададзім!

Даведаўшыся, што мы не пакупнікі, а журналісты, гандляр шчодра расказвае пра сваё жыццё, кожны адказ пачынаючы са слоў: "Зараз патлумачу". Расказае, што багацце, якое ляжыць на тых жа самых месцах з дня ў дзень, прыносіць і раскладвае штодзень са свайго гаража. Сабралася шмат чаго непатрэбнага, а тут часта знаходзяцца тыя, каго атрымліваецца выручаць.

Расказвае і пра насычаны падзеямі лёс. Пра тое, што яго бацька паходзіць з дваранскага роду і ўдзельнічаў у Тульскай абарончай аперацыі, што сам працаваў на заводзе ў Рызе, дзе змог аптымізаваць вытворчасць і зарабіць вялікія грошы, што пасля ўладкаваўся на маладзечанскі "Электрамодуль", дзе ў час працы зрабіў адкрыццё і атрымаў патэнт.

Узгадвае, як дачка гуляла на вуліцы ў дзень Чарнобыльскай катастрофы і як сышла жонка. Ганарыцца падарункам, які атрымаў падчас службы, – гадзіннікам "Слава". Сярод адкрытых дакументаў Дзяржаўнага камітэта СССР па вынаходніцтвах і адкрыццях мы знайшлі два пасведчанні на вынаходніцтвы, сярод аўтараў якіх пазначанае імя нашага суразмоўцы.

### "Мяне аднойчы пакусалі 300 пчол, ледзьве не даўся тады"

Каля яго машыны кожныя пяць хвілін спыняюцца мінакі. Некаторыя бяруць грушы, смачнейшых за якія нідзе няма, хто замест цукеркі набывае мёд у сотах, іншыя па дарозе ў суботнюю лазню рашаюць прыдбаць венік, які гаспадар збірае пад высакавольтнымі лініямі.

**Мечыслаў Іосіфавіч** ужо каля 15 гадоў каля рынку прадае і мёд, і прополіс, і пылок. Але прызнаецца, што ў пчалярства пайшоў не ад любові да пчолаў, а праз тое, што моцна падарваў здароўе, калі працаваў геолагам.

> **Мечыслаў спрабаваў гандляваць на рынку. Арэнда месца каштавала 250 тысяч рублёў.**
> **– А я бывала за дзень прадам адзін слоік мёду. І на бензін у мяне 250 тысяч выходзіла. Які сэнс гандляваць на рынку? Лепей на возеры з вудачкай пасяджу.**

Сам Мечыслаў Іосіфавіч кожныя выхадныя прыязджае ў Маладзечна з Крэва на сваім старэнькім "Масквічы-каблучку".

– А быў бы бізнес прыбытковы, на такім вунь крucяку б ездзіў, – кажа наш суразмоўца, ківаючы ў бок дарагой іншамаркі.

Мечыслаў Іосіфавіч на сваім участку ў Крэве гадуе пчол. Летам каля 300 вулляў, на зіму застаюцца 100. З пчоламі навучыўся абыходзіцца ў часы, калі працаваў у Смаргонскім аб'яднанні пчаляроў.

– Да Смаргоні працаваў у нафтавай прамысловасці. Моцна падарваў здароў'е. Таму і прыйшоў да пчол. Гэта цяпер ёсць маскі, спецыяльнае адзенне, а тады выдалі халацік, накшталт медыцынскага. У першы ж дзень пакусалі. Калі вымалі джалы, налічылі ажно 300 штук! Пакуль ехаў дадому на ровары, некалькі разоў лягаў у канаву, прытомнасць страчваў. Ледзьве не даўся тады. Але вычухаўся неяк. Цяпер спецыяльна да пчолаў хаджу, каб пакусалі, для здароўя.

У 1996 годзе аб'яднанне пчаляроў распалася. Мужчына быў вымушаны зарабляць грошы.

– Спачатку гандляваў на плошчы ў Маладзечне. Вось добра было! А потым гандляроў пачалі ціснуць.

Спрабаваў гандляваць на рынку. Арэнда месца каштавала 250 тысяч рублёў.

– А я бывала за дзень прадам адзін слоік мёду. І на бензін у мяне 250 тысяч выходзіла. Які сэнс гандляваць на рынку? Лепей на возеры з вудачкай пасяджу.

Спрабаваў гандляваць у Смаргоні, але там не знайшоў пакупніка.

Ёсць у Мечыслава Іосіфавіча і свае гандлярскія прыкметы:

– Трэба зрабіць чары. Першай купюрай абнесці ўвесь тавар, затым схаваць у кішэню.

Пра свой тавар можа расказваць гадзінамі:

– Пылок – найлепшы падарунак маладым. За паўгода да зачацця дзіцяці мужу і жонцы трэба на дзень па чайнай лыжцы пылку з'ядаць. Тады дзеці будуць здаровыя. Пылок збіраюць пчолы, калі яны ляцяць у вулей. Я стаўлю сетачку, каб затрымлівала іх. Яны з лапак страсаюць пылок, а я збіраю.

Цяперашнія мядовыя кірмашы надта псуюць нам справу. Там жа не мёд, а невядома што, і цану заніжаюць да мінімуму, абы бралі. Пасля пакупнікі мне дзівяцца, чаму мой мёд дарагі. Мой не дарагі, гэта там танны.

> **Гэта ж чэсны гандаль, я тут 15 год стаю, мяне ўсе ведаюць. Сваё ж прадаю, пакупнікі ведаюць, што бяруць.**

Памятаю, у дзяцінстве бацька вазіў на восеньскі кірмаш у Ашмяны. Купляў пеўніка і коржык у выглядзе сэрцайка. А я ж такі ласун, усе зубы з'еў. Сын мой таксама мёд любіць, але пчол баіцца. Сёння ён лазню нацепліць, разам сходзім. Венікаў я нарабіў многа, хапае.

Нягледзячы на тое, што да многіх гандляроў падыходзілі міліцыянеры і прасілі не займацца незаконным гандлем, кожны базарны дзень тут збіраюцца тыя, каму ёсць што прапанаваць пакупніку. Ці станавіцца да іх у чаргу, кожны можа вырашыць сам.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**
**Фота Настассі РОЎДЫ.**

ФУТБОЛ

# У Маладзечне будуць гуляць каманды вышэйшай лігі?

МАЛАДЗЕЧНА

**Навіну пра тое, што маладзечанскі стадыён разглядаецца як дамашні для мінскай камандай "Іслач", агучыў галоўны трэнер каманды Віталь Жукоўскі.**

"РГ" вырашыла спраўдзіць чуткі пра гэта і пагутарыла з тымі, хто будзе прымаць рашэнне.

**Сяргей Мельнікаў**, дырэктар футбольнага клуба "Іслач", не выключае такую магчымасць:

– Справа ў тым, што маладзечанскі стадыён адпавядае ўсім патрабаванням федэрацыі футбола і патрабаванням УЕФА. Тут і адпаведнае пакрыццё, і асвятленне. Сезон пачынаецца ў красавіку, таму да гэтага часу мы яшчэ паспеем вызначыцца са стадыёнам. А што, маладзечанцы вельмі хочуць, каб "Іслач" гуляла ў іх?

На пытанне, ці танная арэнда стадыёна ў Маладзечне ў параўнанні са сталіцай, Сяргей Мельнікаў патлумачыў, што грашовае пытанне тут вельмі ўмоўнае, таму што калі каманда ўсё ж абярэ гэты стадыён, то тады трэба будзе выдаткоўваць грошы на дастаўку каманды да дамашняга стадыёна.



Уладзімір Макоўскі спадзяецца, што каманда "Іслач" верне аматараў футбола на маладзечанскі стадыён.

Фота з сайта fcisloch.by

### Маладзечанскія фанаты засумавалі па сапраўдным футболе

Сяргей Мельнікаў прызнаўся, што разглядзець стадыён у Маладзечне яму прапанаваў памочнік трэнера іх каманды, былы маладзечанец, выхавальнік маладзечанскай футбольнай школы **Уладзімір Макоўскі**:

– Ну, канешне, я кіраваўся тым, што сам маладзечанец. І памятаю, што ў Маладзечне вельмі добры стадыён. А мясцовая каманда гуляе ў другой лізе, і стадыён больш прастойвае, чым выкарыстоўваецца. Яшчэ на выбар стадыёна ўплывае тое, што ўсе мінскія стадыёны занятыя. Ну, і па-другое, я ведаю, якія ў Маладзечне фанаты і аматары футбола.

**Не можа мясцовая каманда падарыць фанатам задавальненне ад футбольных матчаў, спадзяёмся, што гэта зробім мы.**

Калі "Іслач" усё ж такі сваім стадыёнам абярэ маладзечанскі, то ў мясцовых аматараў футбола з'явіцца магчымасць наведваць матчы такіх камандаў, як БАТЭ, "Дынама" (Мінск), "Шахцёр" (Салігорск) і гульні іншых камандаў вышэйшага дывізіёна.

### З намі пакуль ніхто не размаўляў

Дырэктар гарадскога стадыёна **Аляксей Язневіч** прызнаецца, што прадстаўнікоў каманды "Іслач" ён бачыў на стадыёне, але з канкрэтнай прапановай супрацоўнічаць да яго ніхто пакуль не звяртаўся:

– Мяркую, трэба пачакаць канца сезона. І пытанне, хутчэй за ўсё, вырашыцца ўжо пасля Новага года. Было б добра, каб на карысць нашага стадыёна.

### Апошняя гульня сезона адбудзецца ў суботу

У суботу, 14 лістапада, на гарадскім стадыёне пройдзе апошні матч сезона 2015 года.

Каманда "Маладзечна ДЮСШ-4" згуляе супраць Клецка. Пачатак гульні а 13 гадзіне. Фанаты маладзечанскай каманды абяцаюць, што канец сезона будзе запамінальны і яскравы.

**Наталля ТУР.**

**Навіны спорту чытайце на 14-й старонцы.**

## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**Каля "Бярозкі" ў Маладзечне сутыкнуўся аўтобус з машынай (Фота)**

І зноў гэтае невязучае перакрыжаванне. Можа, трэба выклікаць экстрасэнсаў, каб яны расказалі, чаму з такой зайздроснай перыядычнасцю тут адбываюцца аварыі? ***Sh@m@n.***

**Фота з цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў конкурсу на лепшую рэгіянальную газету 2015 года**

Я ніколі і не сумнявалася, што Вы – ЛЕПШЫЯ!!! Ва ўсіх сэнсах гэтага слова! Здароўя Вам і Вашым сем'ям!!! ***Ляля.***

**"Рэгіянальная газета" стала лепшай газетай 2015 года сярод рэгіянальных СМІ Беларусі**

Гэта больш чым малайцы! Шчыра, ад усяго сэрца віншую ўвесь калектыў "Рэгіянальнай газеты" з перамогай! Ведаю, нялёгка яна вам даецца, бо цяжка цяпер працаваць, усім трэба дагаджаць: чытачам, каб вас чыталі, а вярхам, каб спагадалі! Поспехаў і новых дасягненняў, а мы вас падтрымаем! ***Алесь Раткевіч.***

Віншую! Малайцы! Менавіта "Рэгіянальная газета" абвергла фразу: "Каб жа маладосць ведала, каб жа старасць магла". ***Нэлі.***

Малайцы, віншую з годнай узнагародай, вы гэтага годныя. ***Эдгард.***

**Размаўляем па-беларуску: вадзіцца – слова, якое не чуваць у мове гараджан**

Цікавы матэрыял. І сёння рубрыка, прысвечаная культуры мовы, у газеце не зашкодзіла б. Улічваючы той факт, што многія жыхары рэгіёна вучыліся ў школе па-руску. ***Чытач.***

**АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА**



**Наведнік курсаў "Мова Нанова" Мікола Грыб падчас заняткаў прачытаў на памяць верш Міколы Маляўкі: "Я – беларус маленькі з блакітнымі вачыма. Хачу і я, каб лёпей жыла мая Радзіма". Фота Настассі РОЎДЫ.**

**ГАРАСКОП 13-19 ЛІСТАПАДА**



**Авен.** Звярніце ўвагу на здароўе. Галоўнай прычынай недамагання можа стаць ваша ўласная бестурботнасць і нядбайныя адносіны да сябе.



**Цялец.** Спыніце адносіны з людзьмі, якія перашкаджаюць вам вучыцца, жыць і працаваць. Вам трэба набрацца сіл, упэўненасці ў сабе і цвёрда сказаць ім "не".



**Блізняты.** Не расказвайце свае тайны навакольным, бо вашы словы могуць няправільна растлумачыць.



**Рак.** Ва ўласных адносінах слухайце сваё сэрца, толькі яно падкажа вам правільны выхад у любой сітуацыі. Ды і Венера будзе садзейнічаць умацаванню вашых адносін.



**Леў.** Хоць вашаму здароўю можа пазайздросціць кожны і вы надзеленыя сілай асілка, што можаце зрушыць горы, усё ж пажадана ўстанавіць вызначаныя нормы харчавання, ад якіх вы не будзеце адступаць.



**Дзева.** Вы будзеце думаць, што з'яўляецеся прафесіяналам ва ўсіх сферах, і будзеце раздаваць парады па любым пытанні. Але варта ведаць, што ўсе разважанні неабходна пацвярджаць практыкай.



**Шалі.** Не зацыклівайцеся на дробязях, вас чакаюць вялікія справы. Але поспех будзе залежаць ад вашай здольнасці цвяроза ацаніць сітуацыю.



**Скарпіён.** Вам не хапае навізны ў развіцці адносін. Каб не ўзніклі непаразуменні, дакажыце сваёй другой палавінцы, што гэтыя змяненні неабходныя.



**Стралец.** Удача сама плыве вам у рукі! Зоркі даюць адразу два козыры: папершае, актыўнасць і энергічнасць, а па-другое, удачлівасць у справах. Большая частка практаў, за якія вы возьмецеся, апраўдае самыя смелыя чаканні.



**Казярог.** Навучыцеся мастацтву кампрамісаў, каб не страціць каханага. Уціхамірце сваю гарачнасць і праяўляйце разважлівасць. Шчасце – у вашых руках.



**Вадалей.** Прыйдзе нечаканая вестка, прычым адтуль, адкуль яе менш за ўсё можна было чакаць. Цяжка сказаць наперад, якога роду гэта будзе навіна, але тое, што яна парадуе ў фінансавым плане, без усялякіх сумненняў.



**Рыбы.** Не адмаўляйце сабе ў вітамінах і іншых карыснасцях. Арганізм кожнага з вас падкажа, што яму трэба і што пажадана. Так што ідзіце за ўнутранымі позывамі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

**РЭПЕРТУАРЫ**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ

"**№13**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Рэй Куні*
13 лістапада – у 19:00

"**Банкет**" (сентыментальная камедыя), *Ніл Сайман*
18 лістапада – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Дзядзечкаў сон**" (камедыя мардасаўскіх нораваў), *Фёдар Дастаеўскі*
20 лістапада – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак: **75-24-17** (каса), **75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Цалёвачка**" (музычная казка), *Ю.Шчуцкі*
15 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***

Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

**СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | 2 | 6 | 3 | | 7 | | |
| | | | | | | 9 | | |
| | | | 4 | | | 2 | | 3 |
| | | 9 | | | 1 | | 4 | |
| | 2 | | 9 | | 8 | | 7 | |
| | 5 | | 3 | | | 8 | | |
| 1 | | 7 | | | 3 | | | |
| | | 6 | | | | | | |
| | | 3 | | 2 | 6 | 1 | | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, ваенны "**Крэпасць: Шчытом і мячом**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
14 лістапада – у 12:30
15 лістапада – у 14:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Перапалох у джунглях**" (3D, Мексіка, Паўднёвая Карэя, 2015)
15 лістапада – у 12:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, фэнтэзі "**Сава. Сэрца воіна"** (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
13 лістапада – у 17:20
14 лістапада – у 14:30
15 лістапада – у 16:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Прыгоды, фантастыка "**Марсіянін**" (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
14 лістапада – у 16:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Драма, крымінал, біяграфія "**Чорная імша**" (ЗША, 2015, пасля 18 год)
16 лістапада – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер, прыгоды "**007: Спектр**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
13, 14 лістапада – у 19:10
15, 17 лістапада – у 21:00
16, 18 лістапада – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фэнтэзі, трылер, жахі "**Багровы пік**" (ЗША, Канада, 2015, пасля 16 год)
13, 14 лістапада – у 22:00
15, 17 лістапада – у 18:30
18 лістапада – у 21:00
Цана білета: 45 000 – 50 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастыка, прыгоды "**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца. Частка II**" (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
19 лістапада – у 18:00 і 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма, меладрама "**Дасталі**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
12 лістапада – у 21:00
13, 14 лістапада – у 19:30
15, 16 лістапада – у 21:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя, прыгоды "**Шукальнікі прыгодаў**" (Расія, 2012, пасля 16 год)
12 лістапада – у 18:30
14 лістапада – у 21:30
16 лістапада – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Добрыя ўчынкі**" (ЗША, 2012, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
13 лістапада – у 21:30
15 лістапада – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, фэнтэзі "**Незвычайнае падарожжа Серафімы**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
13 лістапада – у 18:00
14 лістапада – у 13:30
14, 15 лістапада – у 17:00
15 лістапада – у 15:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя "**КінаДзяцінства. Цішэй, бабуля спіць**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
14 лістапада – у 15:30
15 лістапада – у 13:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Баявік "**Джон Уік**" (ЗША, пасля 16 год)
13 лістапада – у 18:10
14 лістапада – у 18:00
15 лістапада – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**8 новых спатканняў**" (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
13, 14 лістапада – у 19:55
15 лістапада – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Чароўная краіна**" (Кітай, без узроставых абмежаванняў)
14, 15 лістапада – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі, прыгоды "**Сава. Сэрца воіна**" (3D, Расія)
13 лістапада – у 18:00
14 лістапада – у 14:30
15 лістапада – у 14:20
Цана білета: 30 000 рублёў

Баявік "**007 Спектр**" (2D, ЗША, Вялікабрытанія, з 16 год)
13 лістапада – у 20:00
14 лістапада – у 21:00
15 лістапада – у 18:20,21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Крэпасць: шчытом і мячом**" (2D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
14 лістапада – у 12:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Трылер, драма "**Радзіма**" (2D, Расія, з 16 год)
14 лістапада – у 16:10
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды "**Марсіянін**" (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
14 лістапада – у 18:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Кунг-фу Трусік**" (3D, Кітай, без узроставых абмежаванняў)
15 лістапада – у 12:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Баявік, драма, крымінал "**Чорная імша**" (2D, ЗША, з 18 год)
15 лістапада – у 16:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59.**




**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by





● НАДВОР'Е

**14 лістапада, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 / +6 | | +5 / +7 | | +4 / +6 | | +3 / +5 | |
| | 746 | ↘ 2 | 731 | ↖ 3 | 730 | ↘ 7 | 737 | ↓ 4 |
| Вільня | +7 / +8 | | +6 / +6 | | +5 / +5 | | +2 / +5 | |
| | 754 | → 4 | 741 | ↘ 2 | 740 | ↘ 6 | 746 | → 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.40
Захад 17.14
Даўжыня дня 8.34

Усход 10.52
Захад 19.31
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

НАРАЧ (КУПА)

Мінімальная тэмпература -7,3 °C у 1983 годзе
Максімальная тэмпература +10,7 °C у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,2 мм у 1999 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Чым адметныя былі абласныя "Дажынкі" ў Вілейцы. Хто завітаў на свята, што набывалі жыхары і госці горада. Наколькі падабаецца абноўлены горад віляйчанам.

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Паводле закона, вы можаце ажаніцца ў 16 год. Але відаць з першай шлюбнай ночы зможаце ўбачыць толькі ў 18.

***

Пасля слоў жонкі: "Нешта захацелася салёных смажаных клубніц" бацька семярых дзяцей страціў прытомнасць.

***

Неяк загуляў і дасылаю жонцы: "Дамоў сёння не чакай". Яна ў адказ: "Гарантуеш?".



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці набываеце прадукты ў людзей, якія гандлююць каля рынку?



**Юры Юша, электраманцёр:**
– Купляю альбо ў магазінах, альбо на самім рынку. Людзям, якія прадаюць прадукты ўласнай вытворчасці, не асабліва давяраю альбо купляю толькі ў знаёмых.



**Вікторыя Балдоўская, інспектар:**
– Пераважна набываю прадукты альбо на самім рынку, альбо ў магазінах. А вось яблыкі, грушы, ягады магу купіць у бабулек, што стаяць каля рынку.



**Іна Шатроўская, фармацэўт:**
– Ніколі не купляю ў людзей, што гандлююць каля рынку, толькі ў гандлёвых павільёнах. Па-першае, людзі раскладаюць свае тавары на зямлі, і пясок, пыл трапляюць на іх. Па-другое, ніякіх сертыфікатаў якасці няма на гэтых таварах.



**Вера Маліноўская, пенсіянерка:**
– Не купляю ў людзей, што гандлююць не на самім рынку. Дакладна нельга сказаць, што за чалавек перад табой, у прадаўцоў жа ёсць санкніжка. Купляю толькі ў правераных людзей, па сала іду да знаёмых гандляроў альбо сын прывозіць са Смаргоні.



**Таццяна Сівец, прасавальшчыца бялізны:**
– Няма звычкі купляць у людзей, што гандлююць уласнай прадукцыяй. Па пакупкі іду альбо ў магазіны, альбо ў гандлёвыя павільёны на рынку.



**Артур Жыгульскі, электраманцёр:**
– Летам часам купляю лісічкі і чарніцы. Але ў асноўным набываю прадукты ў магазінах.



**Аляксандр Кавецкі, аператар паста кіравання:**
– Раней і сам гандляваў на рынку, прадаваў цыбулю-пяро, дамашнія яйкі. Людзі ахвотна куплялі, куры не паспявалі несціся. Цяпер карову набыў, знаёмыя з ахвотай каштуюць малако, набываюць сабе.

Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№46 (1072) 13.11.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1440. Падпісана ў друк у 9.00 12.11.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.